ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 21 (120) 2 - 8 чэрвеня 1995 г. Кошт 500 рублёў

РЭФЕРЭНДУМ: ЦІ ВЕДАЕМ, ШТО ТВОРЫМ? - ст. 2.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АДБУДЗЕЦЦА ПРЫ ЛЮБЫМ НАДВОР'І - ст. 3.

ПАМЯЦІ ПАЭТА АНДРЭЯ ПЯТКЕВІЧА - ст. 5.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## ПАЧАКАЕМ ВОСЕНІ

**Поўным фіяска закончыўся ў Горадні другі тур выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.**

Па Гарадзенскай Сувораўскай выбарчай акрузе N 126, дзе балатаваўся былы кіраўнік службы інфармацыі ў адміністрацыі прэзідэнта А.Фядута і пракурор райпракуратуры кастрычніцкага раёна П.Урублеўскі, з 31872 чалавек, занесеных у сьпіс для галасаваньня, прыйшло ўсяго 10070 выбаршчыкаў.Прыкладна гэтак жа склаліся выбары і па Гарадзенскай Болдзінскай акрузе N 121. Менавіта тут вялі барацьбу былы першы сакратар абкаму КПБ У.Сямёнаў і небезвядомы Сяргей Шакіравіч Гараеў. Гарадзенцаў не задаволілі ні былыя , ні сучасныя тытулы кандыдатаў, і з 31230 чалавек да выбарчых урнаў прыйшло ўсяго 11904 выбаршчыкі.

Што ж, як кажуць, справа зроблена. Гульні ў выбары і прэзідэнцкі рэферэндум - гэта ўжо гісторыя. Але ўзыходы гэтай гісторыі ўжо даюць плён. Найперш зацягнуўшаяся выбарчая гульня значна скараціла нашы з вамі сямейныя бюджэты, дарагія выбаршчыкі. Спадзявацца, што наступныя выбары адбудуцца восеньню, таксама ня варта. Непрацуючыя заводы, халодная восень зробяць з нашага насельніцтва маўклівага, але ўжо непаслухмянага грамадзяніна, для якога "палітычныя акцыі", накшталт выкапаных на расейска-беларускай граніцы памежных слупоў, ужо ня будуць мець аніякага значэньня.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## «ВЕРАС» БУДЗЕ КАЛЯРОВЫМ

На Гарадзенскім заводзе "Радыёпрыбор" ВА "Хваля" распрацаваны вопытныя ўзоры каляровых тэлевізараў "Верас" з памерам кінескопа па дыяганалі 37 і 16 сантыметраў.

Мадэль з памерам кінескопа 16 сантыметраў універсальная. Яе можна эксплуатаваць ад сеткі 220 V, а таксама і ад акамулятарнай батарэі легкавіка.

Каляровы "Верас" - не адзінае вынаходніцтва гарадзенцаў. У КБ завода распрацавана тэхналагічная сістэма якасна новай радыёкропкі. Хутка ўвод гэтай навінкі створыць магчымасьць радыёслухачам слухаць перадачы радыё без правадной сеткі.

## СВОЙ «ДОМ ГАНДЛЮ»

Пры Гарадзенскім заводзе жалезабетонных вырабаў N 10 створаны "Дом гандлю". Загадчык гэтай гандлёвай кропкі спадар А.Белікаў пракаментаваў працу сваёй установы так: "За некалькі месяцаў працы "Дом гандлю" заключыў кантракт з польскай будаўнічай фірмай "Фадбет" на пастаўку плітаў перакрыцьця. Гэты першы кантракт пасьпяхова выкананы. Зараз узгадняюцца ўмовы наступнага беларуска-польскага кантракту на пастаўку ў Польшчу цэглы для аддзелкі фасадаў будынкаў. Супрацоўніцтвам з польскімі будаўнічымі прадпрыемствамі, фірмамі не абмяжоўваецца камерцыйная дзейнасьць "Дома гандлю". Няблага ўдаецца збываць частку вырабляемай на заводзе прадукцыі будаўнічым арганізацыям Расеі, а таксама адпаведным установам нашай дзяржавы".

## ВЫВУЧАЕМ ПОПЫТ СУМЕСНА

Паміж Прамыслова-гандлёвай Палатай Саюза палякаў Беларусі і Прамыслова-Гандлёвай Палатай горада Беластока дасягнута пагадненьне аб стварэньні сумесных гаспадарчых місій.

У сьферу дзейнасьці місій будзе ўваходзіць вывучэньне попыту польскіх спажыўцоў на беларускія тавары, а таксама вывучэньне попыту на польскія тавары на беларускім рынку.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ПРЭЗІДЭНТ ЛІЧЫЦЬ, ШТО НОВЫ ПАРЛАМАНТ БУДЗЕ «СІНІМ»

На выбарчым участку ў дзень выбараў прэзідэнт Беларусі заявіў, што ён ня мае спадзеву на тое, што новы парламант будзе безканфліктным: "Ніколі ня будзе пакладзістага парламанта. Сёньня кажуць, што пад чырвона-зялёным сьцягам будзе чырвоны парламант. Вы яшчэ паглядзіце, якім ён стане сінім. Шлі ў парламант пад чырвонымі штандарамі, а будуць сінімі з першай сесіі", - зуважыў прэзідэнт. Праўда, Аляксандр Рыгоравіч не патлумачыў, што ён разумее пад словам "сіні". Звычайныя людзі так называюць алкаголікаў, а на міліцэйскім жаргоне злачынцаў-рэцыдывістаў. Аляксандр Рыгоравіч таксама заявіў, што, па маючыхся ў яго зьвестках, многія кандыдаты ад прэзідэнцкай вертыкалі перавысілі грашовую суму, устаноўленую законам, гэтыя дакуманты будуць перададзены ў Цэнтрвыбаркам. Адказваючы на пытаньне, як паводзіць сябе прэзідэнт, калі новы парламант ня будзе абраны, А.Лукашэнка сказаў: "Парламант Беларусі патрэбен, і, калі ў другім туры ён ня будзе абраны, то будзе неабходна зьбіраць Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі, Канстытуцыйны суд і разглядзець складваюшуюся сітуацыю.

## КАМУНІСТЫЯ ЗА ЛІКВІДАЦЫЮ ПАСТА ПРЭЗІДЭНТА НА БЕЛАРУСІ

Лідэр беларускіх камуністаў В.Чыкін заявіў: "Тэндэнцыя прыходу да ўлады камуністых і аграрыяў не зьдзіўляе. Гэтыя працэсы адбываюцца зараз ва ўсіх постсавецкіх краінах". На просьбу пракаментаваць заяву прэзідэнта аб тым, што ён не жадаў бы бачыць у новым парламанце ні камуністаў, ні бэнээфаўцаў, спадар Чыкін згадаў: "Я заўжды лічыў, што язык чалавеку дадзены, каб хаваць свае думкі". На пытаньне, што будзе рабіць ПКБ у выпадку, калі новы парламант будзе ўсё ж абраны, Чыкін сказаў: "Верагодна, што новы парламант не патрэбны прэзідэнту. Зараз, згодна Канстытуцыі, парламант - дэкаратыўны ворган. Камуністы ў парламанце ня будуць выступаць за імпічмент прэзідэнту, але за зьліквідаваньне паста прэзідэнта будуць змагацца.

## БЕЗ ПАРЛАМАНТА ДЗЯРЖАВА ЖЫЦЬ НЯ МОЖА

На выбарчым участку 28 траўня Мечыслаў Грыб ацаніў ход выбарчай кампаніі на Беларусі як даволі складаны: "Хачу нагадаць, што выбары аднаго дэпутата каштуюць 130 мільёнаў рублёў. Значыць, калі выбары не адбудуцца, то дзяржава страціць 3,5 мільярды рублёў". Спадар Грыб лічыць, што да абраньня новага парламанту будзе працаваць стары Вярхоўны Савет 12-га скліканьня. "Бо без парламанту дзяржава жыць ня можа" , - дадаў сьпікер.

## АЛЯКСАНДР АБРАМОВІЧ НЕ ВЫКЛЮЧАЕ МАГЧЫМАСЬЦІ ЎНЯСЕНЬНЯ ПАПРАВАК У ЗАКОН АБ ВЫБАРАХ

Каментуючы выказваньні прэзідэнта аб кандыдатах, што парушылі закон, старшыня Цэнтрвыбаркаму А.Абрамовіч заявіў, што пакуль ніякіх дакумантаў прэзідэнт у Цэнтрвыбаркам не перадаў. Сітуацыя аб парушэньні кандыдатамі закону будзе вырашацца ў адпаведнасьці з наяўнасьцю дакумантальных улік.

На пытаньне карэспандэнта, ці магчыма сітуацыя, калі стары Вярхоўны Савет зьберэцца і ўнясе папраўкі да Закона аб выбарах, спадар Абрамовіч заявіў: "Гэта не пажадана, але Вярхоўны Савет мае такія паўнамоцтвы".

## НАЗІРАЛЬНІКІ АД ЭЎРАПАРЛАМАНТУ ЎКАЗАЛІ А.ЛУКАШЭНКУ НА НЕДАХОПЫ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

Назіральнікі ад Эўрапарламанту адзначылі, што выбары праходзілі ва ўмовах жорсткай манапалізацыі дзяржавай сродкаў масавай інфармацыі. Кандыдаты ня здолелі данесьці свае праграмы да насельніцтва, а само насельніцтва не заўжды было апавешчана аб другім туры парламанцкіх выбараў. 29 траўня дэлегацыя назіральнікаў сустрэлася з прэзідэнтам Беларусі А.Лукашэнкам. У прыватнасьці, прэзідэнту было сказана: "Для Эўрапарламанту патрэбны непасрэдны партнёр у асобе новага Вярхоўнага Савета Беларусі". "Менавіта гэта і было падкрэслена на сустрэчы з прэзідэнтам", - заявіла карэспандэнту кіраўнічка місіі Эўрапарламанту Элізабэт Шрайдэр.

**СІМ**

## ЧЫТАЙЦЕ І ВЫПІСВАЙЦЕ "ПАГОНЮ"

- газэту, якая паведамляе пра тое, што больш нідзе ня будзе надрукавана.

Акрамя таго, кошт падпіскі на квартал на
- "Народную газету" складае - 39 тысяч рублёў;
- "Гродзенскую праўду" - 24 тысячы рублёў;
**а на "ПАГОНЮ" толькі 9 тысяч рублёў.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

АБАНЭМЭНТ на газэту 63124

"ПАГОНЯ" Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | Месца | літар

на газэту 63124

"ПАГОНЯ"

Кошт: падпіскі 9000 руб.; пераадрасоўкі ___ руб. Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)







# РЭФЕРЭНДУМ: ЦІ ВЕДАЕМ, ШТО ТВОРЫМ?

**"Ня ведаюць, што твораць", - ці не пра наш люд гэта балючая ісьціна? Пра наш люд у наш час. Найгорай жа тое, што ня ведаюць і ведаць ня хочуць. Што ўсё-такі здарылася на нашай зямлі? Якія ўрэшце вынікі гэтага "яшчэ аднаго гістарычнага ўроку"? Нават і пра гэта даведацца цяжка. Нідзе ў сродках масавай інфармацыі няма дакладнага вытлумачэньня, якія вынікі рэферэндуму. Таму пачнем дакопвацца здалёк. А здалёк - гэта ня вельмі далёкая наша гісторыя, гісторыя падрыхтоўкі рэферэндума.**

З чаго ж пачыналася? Як вядома, ініцыятарам гэтага волевыяўленьня народа быў першы дэмакратычна абраны прэзідэнт незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь, якая пад зоркаю Пагоні, пад бел-чырвона-белым сьцягам імкнулася ўрэшце стаць вольнай і па-сапраўднаму незалежнай. Зьвернемся да таго, што, здавалася б, павінна правільна, праўдзіва накіроўваць наша грамадзкае жыцьцё, да законаў, прынятых Вярхоўным Саветам. Найперш - да Закону Рэспублікі Беларусь "Аб народным галасаваньні (рэферэндуме) ў Рэспубліцы Беларусь", прынятага 13 чэрвеня 1991 году. Артыкул 3 гэтага закону, што вызначае магчымыя на рэферэндуме пытаньні, забараняе выносіць тыя, "якія парушаюць неад'емныя правы народа Рэспублікі Беларусь на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасьць, дзяржаўныя гарантыі на існаваньне беларускай нацыі, культуры і мовы". Хіба не відавочна: першае пытаньне рэферэндуму як раз і парушае гарантыі існаваньня беларускай мовы? А пра гэта ўжо гаварылася дастаткова многа. "Свабода", "ЛіМ", "Народная газета" і інш. тлумачылі для тых, хто не разумее, што ў сапраўднасьці азначае двухмоўе на Беларусі. Дарэчы, ужо два тыдні падпісчыкі "ЛіМу" не атрымоўваюць сваю газету.

Зьвернемся і да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Артыкул 148 тлумачыць: "Зьмяненьні і дапаўненьні ў Канстытуцыі не праводзяцца ў перыяд надзвычайнага становішча, а таксама ў апошнія 6 месяцаў паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета". 1-е і 4-е пытаньні, безумоўна, ўносяць зьмены ў Канстытуцыю. Таму іх і нельга было выносіць на рэферэндум перад самымі выбарамі новага Вярхоўнага Савету. Пра тое, што ВС не меў права зацьвярджаць гэтыя пытаньні, перад галасаваньнем спадарам дэпутатам было даведзена старшынёй камісіі па заканадаўству. Дык ці ня ведалі, што тварылі?

Калі такім чынам парушаецца Канстытуцыя, то дзе яе найпершы абаронца - Канстытуцыйны суд? Яго пазіцыя - маўклівы нейтралітэт. Не было належнага аналізу пастановы аб правядзеньні рэферэндуму на адпаведнасьць яго Канстытуцыі і Законам Рэспублікі Беларусь.

Ці ўсё адпавядала Закону пры вынясеньні на рэферэндум пытаньня па дзяржаўнай сімволіцы? Перад зацьвярджэньнем гэтага пытаньня прэзідэнт не прадставіў праекты палажэньняў аб дзяржаўных сімвалах і іх узоры, бо яны на той час былі яшчэ ў стадыі распрацоўкі яго "вядучымі" геральдыстамі. Дык узор якіх сімвалаў народныя дэпутаты зацьвердзілі? Вось ужо сапраўды ня ведалі, што тварылі. Адзінае, што яны ведалі, - "новыя". Узьнікае ўражаньне, што той большасьці Вярхоўнага Савету, рукамі якой і былі праведзены на рэферэндум усе прапанаваныя прэзідэнтам пытаньні, было ўсё адно, якія "новыя", абы толькі ня гэтыя, чамусьці ненавісныя ім, але такія сьвятыя, праўдзівыя для кожнага беларуса, хто імкнецца ведаць сваю гісторыю.

Вынікі галасаваньня вядомыя. На першы погляд, гэта сьмяротны прысуд беларускай мове, нацыянальным сімвалам, вынесены самім народам. Але простая арыфметыка сьцьвярджае: гэта ня так. Як было сказана вышэй, 1-е і 4-е пытаньні ўносяць зьмены ў Канстытуцыю, а частка 3-я артыкула 34 Закона аб рэферэндуме гаворыць: "Рашэньне...аб зьмяненьні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала больш за дзьве трэці грамадзян, унесеных у сьпісы для галасаваньня". Палажэньне гэтага артыкула ні ў якім разе не супярэчыць артыкулу 149 Канстытуцыі, дзе гаворыцца, што рашэньне аб зьменах можа быць прынята большасьцю галасоў. Закон аб рэферэндуме канкрэтызуе, што гэта за большасьць. Такім чынам, "за" павінны былі сказаць больш за 5 мільёнаў беларускіх грамадзян. А столькі нават не прыйшло на рэферэндум. Значыць, ён па гэтых пытаньнях не адбыўся. Наша беларуская мова як была адзінай дзяржаўнай, такой і павінна застацца па выніках рэферэндума. Тым больш прэзідэнт не набыў права роспуску Вярхоўнага Савету і ня мог набыць, бо 4-е пытаньне было кансультатыўным, а, як гаворыць артыкул 39 Закону аб рэферэндуме, "рашэньне кансультатыўнага рэферэндуму мае рэкамендацыйны характар". Рэкамендацыйны, а не абавязковы. Таму, калі прэзідэнт адважыцца распусьціць Вярхоўны Савет, то гэтым ён парушыць Канстытуцыю, гарантам выкананьня якой ён зьяўляецца. Ці ня ведае, што творыць?

Такім чынам, ня могуць быць прызнанымі станоўчымі вынікі галасаваньня па першаму, другому і чацьвёртаму пытаньнях, бо яны вынесены на рэферэндум незаконна. І першае, і чацьвёртае пытаньні не набралі належнай колькасьці галасоў, тым больш, што апошняе носіць кансультатыўны характар.

Дык ведайма ж, што творым!

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ.**

# СУД АДХІЛІЎ КАСАЦЫЙНЫЯ СКАРГІ, АЛЕ СЯРГЕЙ АНТОНЧЫК БУДЗЕ ЗМАГАЦЦА

Менскі гарадзкі суд адхіліў касацыйную скаргу народнага дэпутата Сяргея Антончыка на рашэньне Ленінскага нарсуда сталіцы спагнаць з парламентарыя на карысьць уплаўляючага справамі адміністрацыі прэзідэнта Івана Ціцянкова 200 мільёнаў рублёў. Нагадаем, што гаспадарнік прэзідэнта - спадар Ціцянкоў - прад'явіў да дэпутата Антончыка іск аб абароне гонару і годнасьці пасьля выступленьня парламентарыя на сесіі з вядомым антыкарупцыйным дакладам, у якім былі абвінавачаньні ў адрас прэзідэнцкага "заўхоза". Неабходна зазначыць, што ніводная судовая інстанцыя не ўзяла ў разьлік тое, што спадар Антончык выступаў па даручэньню парламанту, і, адпаведна, па Канстытуцыі ён ня мог быць прыцягнуты да адказнасьці за выкрывальнае выступленьне.

Сам жа дэпутат ніколькі не зьдзіўляецца і ў тэлефоннай размове з карэспандэнтам у прыватнасьці заявіў, што такім шляхам "героі" яго антыкарупцыйнага дакладу зводзяць з ім рахункі. Больш таго, у апошні час, па словах спадара Сяргея, яго проста засыпалі судовымі павесткамі. "Аб зьняважаным гонары і годнасьці, - заявіў дэпутат, - нечакана ўспомнілі нават тыя, аб кім я пісаў у газетных артыкулах некалькі год таму. Пагэтаму няма сумніву, што гэта заранёў спланаваная акцыя супраць мяне. Верагодна, яны баяцца майго новага дакладу аб карупцыі ў прэзідэнцкай каманьдзе і прагнуць мяне прылюдна растаптаць, вымусіць змаўчаць. Не выключана, што супраць мяне паспрабуюць узбудзіць крымінальную справу. Але я ў любым выпадку ня здамся і буду працягваць барацьбу з карупцыяй". На пытаньне, ці мае намер Сяргей Антончык выплаціць на карысьць Ціцянкова судовае спагнаньне, дэпутат адказаў: "Я ня згодзен з рашэньнем суда і буду дамагацца перагляду справы". Калі ж судовыя выканаўцы паспрабуюць выканаць рашэньне суда, зрабіць гэта будзе амаль немагчыма. Для таго, каб выплаціць вызначаны судом штраф у 200 мільёнаў, Сяргею Антончыку пры яго сёньняшней зарплаце давядзецца гэта рабіць 390 год! "Іншых крыніц прыбытку, - заявіў дэпутат, - у мяне няма. Каштоўных рэчаў, легкавікоў альбо лецішча я ня маю".

Дарэчы, выносячы рашэньне аб выплаце Сяргеем Антончыкам такога высокага штрафу, суддзя Ленінскага нарсуда нават не пацікавілася яго матэрыяльным становішчам.

**СІМ**

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ЎПРАВЫ СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Управа БНФ паведамляе, што ўладныя і іншыя структуры, зьвязаныя з прэзідэнцкай групай улады, распачалі метадычнае судовае цкаваньне дэпутата Вярхоўнага Савета, сябра Апазіцыі БНФ Сяргея Антончыка. Імкнуцца арганізаваць супраць яго мноства судоў, мабілізуючы ўсіх тых наменклатуршчыкаў, каго закрануў дэпутат на працягу некалькіх гадоў сваёй антыкарупцыйнай выкрывальніцкай барацьбы. Вядома, што прадстаўнікі ўлады маюць магчымасьць уплываць на рашэньні судоў.

Усё гэта яскрава сьведчыць пра існаваньне на Беларусі наменклатурнай мафіі, аб чым неаднаразова паведамлялася прадстаўнікамі Народнага Фронту.

Управа Сойму БНФ выказвае абурэньне арганізаваным перасьледаваньнем Сяргея Антончыка і амаральнай дзейнасьцю людзей, зьвязаных з уладнымі структурамі кіраваньня. Мы заклікаем здаровыя сілы грамадства, сумленных прафесіяналаў і грамадзкіх дзеячоў падтрымаць Сяргея Антончыка і тых людзей, што ў інтарэсах народа і краіны змагаюцца з карупцыяй і раскраданьнем дзяржаўнай маёмасьці.

**22 траўня 1995г., г.Менск.**

**Меркаваньне**

# ДЗЕЦІ ХЛУСЬНІ?

Над ложкам сына вісіць партрэт прыгожага блакітнавокага мужчыны ў белай нацыянальнай кашулі з чырвонай вышыўкай. Гэта Даньчык - амерыканскі беларус. З пэўнага часу ён займае важнае мейсца ў сэрцы дзіцяці. Яго песьні, асабліва "Пагоню" на словы Багдановіча, малы можа слухаць бясконца.

А днямі пачула, як ён дзяліўся ўражаньнямі з сябрамі наконт свайго новага захапленьня: "Даньчык вырас у Амерыцы. Але ён - сапраўдны беларус. І мову нашу ведае, і песьні. А любіць Беларусь больш, чым многія беларусы, якія жывуць тут..."

Безумоўна, гэта не яго словы. Гэта ён паўтарае тое, што неаднаразова чуў ад мяне. Дзіця ў восем гадоў яшчэ ня здольна зрабіць высновы гэткага кшталту. Але яно здольна прыняць пачуцьці і меркаваньні людзей, у чыёй праваце не сумняваецца - бацькоў, бабулі, дзядулі, любімай настаўніцы.

Увесь мінулы год сын, як і ўсе яго аднакласьнікі, вывучаў гісторыю нашай беларускай сімволікі. З захапленьнем перачытваў кнігу В.Вячоркі "Пра герб і сьцяг". Перамалёўваў у асобны сшытак пячаткі беларускіх князёў Міндоўга, Жыгімонта (1398г.), гербы радавітых князёў позьняга часу, манеты 1547 года, дзе галоўнае месца займае Пагоня. А на грудзях насіў значок - срэбны рыцар на імклівым кані. З трапятаньнем ставіўся да бел-чырвона-белага сьцяга.

Я шчыра радавалася, бо ўпэўнена, што менавіта з гэтага - з павагі да сваёй мовы, сьцяга, гербу, гісторыі - і пачынаецца сапраўдная любоў да Бацькаўшчыны.

...Як цяпер патлумачыць дзіцяці, чаму на вуліцах вісяць іншыя сьцягі і іншыя гербы? Чаму дарослыя людзі плююць на спрадвечныя сімвалы? Чаму да ўлады прыйшлі ворагі ўсяго беларускага і пачалі зьдзекавацца з нашае спадчыны? Чаму ня хочуць несьці адказнасьць за эканамічны крах і поўнасьцю пазбаўляюць дзяржаву самастойнасьці?

Ці магчыма зразумець усё гэта ў раньнім школьным узросьце? Адрачыся ад звыклага, дарагога, адмовіцца ад сваіх перакананьняў, і потым жыць у бясконцым канфлікце з сабой у бязвер'і?! Гэта не пад сілу нават многім дарослым...

Шкада дзяцей. Пра іх у брудных палітычных гульнях думаюць менш за ўсё. Мяняюць сімвалы, каштоўнасьці, як пальчаткі. Чорнае называюць белым, дрэннае - добрым... Ці можна пасьля гэтага верыць дарослым? Верыць наогул?

Маё пакаленьне выхавана на агіднай хлусьні. З ёй мы нараджаліся. Ёй, гэтай хлусьнёй, было працята ўсё: гісторыя, літаратура, грамадазнаўства, прэса, нашы галовы, нашы сэрцы. Няўжо тое ж чакае і сёньняшніх дзяцей? Мабыць так... Бо большая частка іх бацькоў яшчэ наіўна спадзяецца, што пры двухмоўі і вернутых савецкіх сімвалах згінуць эканамічныя праблемы і зажывецца лепей. Таму шляхоў да паляпшэньня долі сваёй не шукае. Цярпліва чакае, назірае за падзеямі: што ж далей?

Ня трэба быць астролагам, каб прадказаць: хутчэй за ўсё, вырасьце яшчэ адно загубленае пакаленьне. Пасіўнае, нязольнае, непрынцыповае, няўпэўненае ў сабе. Дзеці нашай хлусьні. Нашай абыякавасьці. Манкурты. Яблык жа ад яблыні не далёка падае...

**Ала БІБІКАВА.**

# ВІКТАР ВАРАНЕЦ: «ХАЧУ, КАБ БЕЛАРУСКАЯ МОВА НЯ ЗЬНІКЛА Ў БЕЛАРУСКІМ АСЯРОДДЗІ»

**Бягучы год зьяўляецца юбілейным для гісторыка-культурнага клуба "Паходня". Амаль 10 гадоў назад было запалена сьвятло "Паходні". Чым зараз жыве клуб? Якія праблемы і дасягнененьні маюць сябры гэтай старэйшай на Гарадзеншчыне дэмакратычнай арганізацыі? На гэтыя і іншыя пытаньні адкажа старшыня "Паходні" Віктар Іванавіч Варанец.**

**- Спадар Віктар, што новага ў "Паходні"?**

- Пачну з таго, што "Паходня", дзякуй Богу, жыве і працуе. Як і раней, мы зьбіраемся па чацьвяргах а 19-й гадзіне ў гарадзкім Доме культуры. Праўда зараз, на час выбараў, паседжаньні праводзяцца раз на месяц, бо амаль усе сябры клуба так ці інакш задзейнічаны ў выбарчай кампаніі. Але ў хуткім часе зноў пяройдзем на штотыднёвы рэжым працы. Калі ж казаць аб непасрэднай дзейнасьці "Паходні", то хачу адзначыць, што мы па-ранейшаму прытрымліваемся галоўнага правіла клуба: запрашаць цікавых асоб для выступу, але заўсёды даваць магчымасьць любому жадаючаму выступіць. З апошніх паседжаньняў назаву толькі некалькі. Гэта выступленьне прафесара універсітэта П.У.Сьцяцко з тэмай "Нармаваньне беларускага правапісу", загадчыка аддзела абласной пракуратуры І.Э.Мартыненкі "Праблемы заканадаўства па ахове помнікаў гісторыі і культуры", гарадзенскага кампазітара А.А.Чопчыца з уласным варыянтам беларускага гімна і г.д. Зьвярталіся мы і з калектыўным лістом да старшыні аблвыканкама сп.Дубко з прапановамі па паляпшэньню распаўсюджваньня і выкарыстаньня беларускай мовы ў вобласьці, але, на жаль, атрымалі ў адказ сапраўдную адпіску. Выказалі сваё абурэньне і прэтэнзіі да Гарадзенскага гарвыканкама ў сувязі з пагаршэньнем экалагічнага стану ў горадзе і, у прыватнасьці, па факту вынішчэньня вялікага фруктовага саду па вуліцы Фамічова. Адказу, праўда, так і не атрымалі. Вось, калі казаць сьцісла, толькі некаторыя нашы справы апошняга часу.

**- А што ў перспектыве?**

- У перспектыве бліжэйшае сьвята - Купальле. А там і не за гарамі юбілей, калі "Паходні" споўніцца 10 год. А так, традыцыйныя паседжаньні, на якія зьбіраюцца прадстаўнікі розных партый, рухаў, веравызнаньняў, каб паразмаўляць адзін з адным, пачуць нешта новае, цікавае, выказацца самаму.

**- Спадар Віктар, некалькі слоў аб адбыўшыхся выбарах і рэферэндуме...**

- Што ж, сапраўды, што лёгка даецца, тое ніколі ня цэніцца. Мы на талерачцы атрымалі суверэнітэт, мову, дзяржаўную сімволіку. І, не ўсьвядоміўшы ўсёй каштоўнасьці гэтага Боскага падарунку, лёгка ўсё аддалі. Але са зьменай сімволікі і мовы праблем не паменшылася. Іх стала болей. Грамадзтва ўжо за гэтых некалькі дзён раскалолася на два лагеры, бо пад сімволікай і мовай кожны ўжо бачыць і далейшы шлях краіны, і адносіны да гісторыі, культуры, спадчыны. Хаця, ведаеце, да мяне падыходзілі і людзі, вельмі далёкія ад палітыкі, рускамоўныя, якіх абурыла недальнабачнасьць браткоў-беларусаў: "А хто плаціць будзе за зьмену сімвалаў?" Але хіба мы прывыклі думаць? Мы ганарымся, што не хадзілі на выбары і яны не адбыліся, не думаючы, што новы тур будзе аплочаны зноў жа з нашай кішэні. А ўвогуле, сорамна, што так проста прадалі сваю мову, гісторыю, культуру, а значыць і нацыю. Што ж датычыцца выбараў, то тут ёсьць над чым падумаць дэмакратам. Самы час зьмяняць тактыку, перафармоўвацца структурна, добра пераглядзець свае шэрагі. Ня ўсё ладна ў гэтым "каралеўстве", калі за столькі год апазіцыйнай барацьбы, пасьля стольказ правалаў іншых сіл, стаяўшых пры ўладзе, не змаглі пераканаць народ даць сапраўдны шанц дэмакратам.

**- Вас, як кіраўніка гісторыка-культурнай арганізацыі, напэўна, хвалюе пытаньне беларускай мовы ў сьвятле апошняга рэферэндума. Што чакае нашу мову?**

- Так, другі этап беларусізацыі ў XX ст. можна лічыць закончаным. Безумоўна, што беларуская мова будзе зараз у загоне. Але мне бачыцца і іншае. Апошнія 10 год не прайшлі дарэмна. Паглядзіце, колькі прадстаўнікоў інтэлігенцыі пачалі размаўляць па-беларуску. Колькі імі выдадзена тэрміналагічных слоўнікаў, метадычных дапаможнікаў. Гэта наш залаты фонд. І трэба толькі так зрабіць, каб беларуская мова ня зьнікла ў інтэлектуальным асяроддзі. У гэтыя дні мы абавязаны зрабіць усё, каб менавіта размова па-беларуску стала сімвалам прэстыжнасьці і інтэлігентнасьці. А для гэтага трэба выпрацаваць механізмы рэалізацыі гэтай задумы. Неабходна ў бліжэйшы час правесьці гарадзкую канферэнцыю "Беларуская мова - мова думаючых людзей", дзе б і вырашылі ўсе гэтыя пытаньні. І мы зрабілі б адпраўную кропку для далейшага адраджэньня і распаўсюджаньня нашай мовы. "Паходня" гатова ўнесьці ў гэтую справу свой уклад.

**- І апошняе пытаньне. Ці плануе спадар Варанец прыняць удзел у палітычным жыцьці Беларусі?**

- Мне здаецца, што прыйшоў час новых, маладых, думаючых людзей, не сапсаваных уладай і карумпаванасьцю дзяржаўных структур. Ім трэба даць шанц. Можа гэта і не зусім сьціпла гучыць, але я думаю, што мне ёсьць што сказаць і над чым працаваць у органах улады. Зыходзячы з такіх пазіцый я і даў згоду вылучацца кандыдатам у мясцовыя Саветы. І калі выбаршчыкі мне павераць, я пастараюся іх не падвесьці.

**- Дзякуй, спадар Віктар, за гэту размову і плённай працы, яркага сьвятла клубу "Паходня".**

- Дзякуй за добрыя пажаданьні, і чакаю ўсіх на "Паходні".

**Распытваў Г. АСТРОЎСКІ.**



# ГРАМАДЗТВА



**ПРЫВІТАНЬНЕ, ЛЕТА!**

28 траўня ў Горадні на падворку музея гісторыі рэлігіі адбылося традыцыйнае сьвята "Дзень майстра". Народныя ўмельцы з усёй рэспублікі зьехаліся ў Горадню, каб удзельнічаць у вясёлым кірмашы і прапанаваць пакупнікам свае "экзатычныя" вырабы.

Л.С.

Фатаграфаваў Яраслаў ВАНЮКЕВІЧ.

## ЧАМУ НАС ВУЧАЦЬ ВЕТЭРАНЫ

**Мой дзед Уладзімір Ліхадзееў - ветэран вайны. Стала на кватэры дзеда зьбіраюцца яго сябры-аднапалчане. Калі я быў малы, слухаў іх успаміны, аповяды, цікавіўся асабістым удзелам дзеда і яго сяброў у той ці іншай ваеннай аперацыі.**

Час няўрымсьлівы, частае слуханьне аднаго і таго ж мне абрыдла. Куды цікавейшымі сталі дыскатэкі, розныя стылі сучаснай музыкі, жанры кіно. Менавіта ў сюжэце баевіка ці рытмічных мелодыях БОНІ-М мне з сябрукамі разьбірацца было намнога прыемней. Памятаю, калі я пакпіў з дзеда, што ён расказвае адзін і той жа ваенны выпадак мо сто разі заўжды па-рознаму, дык ён моцна ўзьеўся на мяне. Крычаў маці, што яна мяне не выхоўвае, а дазваляе мець дома магнітафон і транзістар, якія і зьяўляюцца маімі сапраўднымі выхавацелямі і настаўнікамі. Маці абараняла мяне, а я пасьмейваўся. Раз'юшаны дзед за маю непаслухмянасьць загадаў маёй маці пакінуць з усёй сям'ёй ягоную кватэру. Выйсьця не было, маці напісала заяву ў прафкам па месцы працы і праз нейкі час з утульнай трохпакаёўкі дзеда мы пераехалі ў інтэрнат. Фактычна ў 15 год я ўпершыню адчуў, што такое мець свой густ, свае інтарэсы. Яшчэ больш зразумеў пасьля заканчэньня МВТВ ім Баўмана. Праца ў сьферы абарончай прамысловасьці на многае адкрыла вочы, шмат чаму навучыла. Паўсюдна я адчуваў за сабой кантроль такіх вось кантралёраў-ленінцаў, як мой дзед. Яны сачылі за ўсім: за стылем вопраткі, выказваньнем думкі, разуменьнем марксісцка-ленінскай палітыкі. Калі ты маўчаў ці пагаджаўся з імі - быў свой, калі насіў джынсы ці іншыя модныя на той час рэчы - да цябе ставіліся з падазронасьцю.

Той час цяпер - ужо мінуўшчына. Але прымусілі мяне ўзяцца за пяро вось такія абставіны. Праз дзень пасьля сьвяткаваньня Перамогі дзед завітаў да нас у госьці. Радаваўся, разважаў, даваў парады. Напрыканцы ён настолькі асьмялеў, што сказаў: "Мы, ветэраны, думаем, што сёньняшні цяжкі час у эканоміцы і палітыцы мае вытокі ў няправільным трактаваньні моладззю заваёў кастрычніка. І ветэранам належыць яшчэ як сьлед працаваць у школах, ПТВ, садках, каб правільна данесьці моладзі свае ідэі пабудовы камунізму". Калі ж я спытаў дзеда, па якіх новых навуковых праграмах яны зьбіраюцца агітаваць і выхоўваць дзяцей дзетсадаўскага ўзросту, адказ быў самы што ні ёсьць камуністычны: "На прыкладах жыцьцёвага подзьвігу ветэранаў ВАВ і іх жыцьцёвай мудрасьці". Вось так, ні больш і ня меньш. Наўзамен тлумачэньня сьпецыялістамі азоў бізнэсу, менэджмэнту, валоданьня аргтэхнікай, "новаяўныя навукоўцы" ізноў зьбіраюцца дурыць галаву сьветлай будучыняй. А можа ўжо хопіць несьці абсурд? Ваш час мінуў, прайшоў, страціў сэнс.

Валеры ЛІХАДЗЕЕЎ,
г.Горадня.

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АДБУДЗЕЦЦА ПРЫ ЛЮБЫМ НАДВОР'І

**Больш паўгода прайшло, як у Горадні распачало працу Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча. З гэтай нагоды генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Горадні Мар'януш Машкевіч наладзіў прэс-канферэнцыю для журналістаў.**

Падчас прэс-канферэнцыі спадар консул распавёў пра задачы і накірункі работы консульства. У прыватнасьці, ён вызначыў тры галоўныя накірункі дзейнасьці консульства. Гэта дапамога ў разьвіцьці двухбаковых кантактаў паміж нашай дзяржавай і Польшчай, дапамога польскай меншасьці на Гарадзеншчыне і апека Генеральным консульствам грамазян Рэспублікі Польшча, што часова знаходзяцца на нашай тэрыторыі. Таксама спадар Мар'януш Машкевіч распавёў аб праблемах будоўлі Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Горадні, для якога за палацам культуры "Тэкстыльшчыкаў" уладамі горада выдзелена будаўнічая пляцоўка. А пакуль што бліжэйшыя тры гады Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Горадні будзе мясьціцца ў будынку па вуліцы Будзёнага, 48-А, на тэрыторыі МГК "Маналіт". Менавіта тут 14 чэрвеня адбудзецца прэзентацыя Генеральнага консульства РП у Горадні. Падчас прэзентацыі распачне сваю працу выстава гаспадарчых і прамысловых тавараў, у якой возьмуць удзел больш за 30 фірмаў Польшчы. У сьвяточных мерапрыемствах з нагоды прэзентацыі Генконсульства возьмуць удзел міністры замежных спраў Беларусі і Польшчы, а таксама мастацкія калектывы з Беластоку і Горадні.

Г.АСТРОЎСКІ.

### НАЧАЛЬНІКА ЗЬНЯЛІ ЗА НЕДЗЕЯЗДОЛЬНАСЬЦЬ

У Магілёве напрыканцы траўня тысячы гараджан спазьніліся на працу. Спазьненьне выклікана кароткатэрміновай забастоўкай вадзіцеляў тралейбусаў, якія ня выехалі на маршрутныя лініі з-за нявыплаты заробку. Забастоўка была хутка спынена. Тралейбусьнікам выплацілі грошы, і яны выйшлі на працу. Аднак пракуратура зьвярнулася з іскам у суд аб прызнаньні забастоўкі незаконнай, бо дзейнічаючае працоўнае заканадаўства забараняе забастоўкі на транспарце. У выпадку задавальненьня судом іску, адміністрацыя тралейбуснага ўпраўленьня зможа зрабіць пэўныя захады ў адносінах да вінаватых і ўдзельнікаў акцыі пратэсту. Ня выключана, што адміністрацыя пойдзе і на звальненьне вадзіцеляў.

На надзвычайным пасяджэньні гарвыканкаму ад пасады быў вызвалены начальнік тралейбуснага ўпраўленьня Віктар Шуткоў за тое, што неабходныя на зарплату 500 мільёнаў рублёў меліся на банкаўскім рахунку ўпраўленьня, аднак не былі своечасова зьняты, каб выдаць заробак.

### НА САЛОДКАЕ НЯМА ПОПЫТУ

На складах гомельскай каньдзіцерскай фабрыкі "Спартак" накоплена 183,5 тоны каньдзіцерскіх вырабаў на суму 2 мільярды 900 мільёнаў рублёў. Адсутнасьць попыту на гомельскія вырабы тлумачыцца найперш значным зьніжэньнем пакупніцкіх здольнасьцяў насельніцтва (62% прадпрыемстваў на гомельшчыне працуюць не на поўную магутнасьць, што адбіваецца на заробку рабочых).

### ШКЛЯНКІ - НА СКЛАДЗЕ, ЗАРПЛАТА - У ПАМЯЦІ

У гарадзкім пасёлку Елізава, што на Магілёўшчыне, спыніўся ад недахопу сыравіны мясцовы шклозавод "Кастрычнік". Працоўны калектыў завода складае большасьць насельніцтва пасёлка.

На "Кастрычніку" вось ужо больш двух месяцаў не выплачваецца заробак, а на складзе гатовых шклянак, слоікаў і іншага шклопосуду ляжыць больш як на тры мільярды рублёў.

### ЗНОЎ ПАДАТКІ

У сродках масавай інфармацыі ўжо паведамлялася аб тым, што Менскі гарвыканкам падрыхтаваў праект пастановы "Аб увядзеньні падаткаў за права гандлю ў шапіках, палатах, парках і іншых прыватных гандлёвых кропках, а таксама збор падатку за права гандлю пры правядзеньні выстаў, выстаў-продажаў, кірмашоў". Гаворка ідзе аб сьпецыяльным падатку ў гарадзкі бюджэт у памеры адной мінімальнай зарплаты з аднаго квадратнага метра выставачнай пляцоўкі ў дзень падчас працы выставы (без права розьнічнага гандлю) і тры мінімальных зарплаты ў выпадку, калі гандаль вядзецца прама з секцыі.

Цікава, што агульная сума падатку павінна быць унесена кампаніямі да пачатку працы выставы. Па падліках экспертаў, калі напоўніць поўнасьцю павільёны, напрыклад, рэспубліканскага выставачнага цэнтру, то фірме, якая выстаўляе свой тавар, прыйдзецца заплаціць адразу 20 тысяч долараў.

Невялікім фірмам такі падатак не пад сілу. Буйныя ў выніку падвышэньня кошту на выстаўлены тавар страцяць мноства кліентаў. Таму кіраўнікі шэрагу буйных беларускіх выставачных фірм зьвярнуліся ў гарвыканкам з просьбай не выносіць праект дакумента аб падатку на сесію гарсавета. Адмоўную адзнаку праекту дала і камісія па бюджэту і эканамічнаму разьвіцьцю гарадзкога Савета, узначаленая прэзідэнтам саюза прадпрымальнікаў Беларусі Уладзімірам Карагіным.

СІМ

### ПРАПАНОВЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАМ

Генеральны дырэктар выдавецка-паліграфічнай фірмы "Эрыдан" Аляксандр Патупа зьвярнуўся ў Савет Беларускай канфедэрацыі прамыславікоў і прадпрымальнікаў (БКПП) з просьбай неадкладна сабрацца і абмеркаваць шэраг жыцьцёва важных для краіны пытаньняў. У прыватнасьці, спадар Патупа прапануе прызнаць становішча ў эканоміцы Беларусі фазай сістэмнай катастрофы, а таксама аб'явіць дзяржаву надзвычайна небясьпечнай зонай для разьвіцьця прадпрымальніцтва. На думку А.Патупы, збанкрутаваная дзяржава спрабуе ўтрымацца на плаву, уключаючы магутныя экспрапрыяцыйныя механізмы. Чым даводзяць да банкруцтва ўсю сістэму суб'ектаў гаспадараньня, а значыць, усё грамадзтва цалкам. Прычынай для такіх рэзкіх выказваньняў А.Патупы стала прынятая Кабінетам Міністраў пастанова N 255, у якой зацьверджана "Палажэньне аб зборы падаткаў", а таксама адпаведны прэзідэнцкі ўказ. Аляксандр Патупа заклікаў сяброў БКПП адклікаць подпісы пад Генеральным пагадненьнем на 1995 год. "У таварышай начальнікаў няма ахвоты выконваць якія-кольвечы ўмовы гульні, засталося толькі няўтрымнае жаданьне паболей выйграць кожным чарговым ходам. Гэта палітычны "напарстак", дзе кожнаму ўгатавана альбо запраграмаванае, ціхае спусташэньне кішэняў, альбо (пры будучым пратэсьце) дастанецца добра па зубах ад вартавых амбалаў", - заявіў генеральны дырэктар.

### ЛІДЭР ПАРТЫІ АМАТАРАЎ ПІВА МАЕ НАМЕР ЭМІГРАВАЦЬ

Як стала вядома, лідэр партыі аматараў піва Андрэй Рамашэўскі зьвярнуўся ў амбасаду Канады ў Маскве з просьбай выдаць дакументы для афармленьня выезда на сталае месца жыхарства ў Канаду. Прычынай такога кроку, па словах сяброў Рамашэўскага, стала пагаршэньне агульнапалітычнай сітуацыі ў Беларусі, а таксама правал Партыі аматараў піва ў першым туры парламанцкіх выбараў.

### ДАДЗЕНЫЯ АБ КОЛЬКАСЬЦІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПАШПАРТОЎ ЗАСАКРЭЧАНЫ

У сувязі са зьменаю дзяржаўнай сімволікі, на сьпецпрадпрыемстве выдавецтва "Беларускі дом друку" распачалася падрыхтоўка да зьнішчэньня нацыянальных пашпартоў. Інфармаваныя крыніцы сьцьвярджаюць, што чарговая замена пашпартоў (па некаторых зьвестках іх надрукавана некалькі мільёнаў) абыдзецца беларускім падаткаплацельшчыкам у дзесяткі мільёнаў долараў. Праўда, дырэктар сьпецпрадпрыемства Сяргей Пасьмяцюха заявіў, што пакуль няма каманды зьнішчаць нацыянальныя пашпарты. Аднак выпуск іх спынены. Увогуле, у бягучым годзе МУС, спасылаючыся на адсутнасьць сродкаў, не выкінула ніводнага экзэмпляра пашпарта. Усе новыя пашпарты знаходзяцца на складзе прадпрыемства. Аднак дакладную лічбу колькасьці спадар Пасьмяцюха назваць адмовіўся, спасылаючыся на інструкцыю Мінфіна, якая забараняе рассакрэчваць дадзеныя. Адмовіўся даць зьвесткі і начальнік пашпартнага стала аддзела МУС Анатоль Ванін.

Мяркуючы па ўсім, улады далі загад засакрэціць зьвесткі аб колькасьці экзэмпляраў нацыянальных пашпартоў, каб грамадзтва ня ведала аб затратах на рэалізацыю кампаніі па зьмене сімволікі.

### В.ЦІХІНЯ ВЫПІСВАЕЦЦА СА ШПІТАЛЯ

Як паведамілі карэспандэнту ў Канстытуцыйным судзе Беларусі, здароўе старшыні КС Валерыя Ціхіні пачало папраўляцца. Раней спадар Ціхіня з дыягназам "востры сардэчны недахоп" быў зьмешчаны ў шпіталь.

Зараз старшыня КС пераведзены ў рэабілітацыйны цэнтр у Гарадзішча, што непадалёк Менску. Плануецца, што праз два-тры дні В.Ціхіня здолее працаваць.

СІМ

# СУМЕЖЖА

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ШЛЮБ?

Шлюб пачынаецца з заявы ў загс. Дзяржаўны збор за афармленьне шлюбу па ўсёй Летуве аднолькавы - 10 літаў. Аднак гэта яшчэ ня ўсё. У кожным аддзеле метрыкацыі ёсьць так званая аплата за спецыяльныя паслугі. Яе велічыня залежыць ад патрабаваньняў, выдумкі і сумленьня тых, хто бярэ шлюб. У Панявескім раёне сьпецыяльныя паслугі ацэньваюцца ў 7 літаў, у самым Панявежу яны каштуюць 12, у Уцяне - 8, у Малетах - 10 і г.д. Найдаражэй каштуе шлюб у Вільні - 58 літаў, у Коўні - 36, у Шаўлях - 35, у Марыямпалі - 30. У мінулым годзе ў сталічным палацы шлюбаў 87 пар зарэгістравалі шлюб без якіх-кольвечы ўрачыстасьцяў, а толькі за дзяржаўны збор. У асноўным гэта былі людзі старэйшыя, інваліды, навучэнцы. Аднак ня трэба думаць, што больш выйгралі тыя, хто заплаціў 58 літаў. У лепшым выпадку - некалькі музычных акордаў. Ды і то не ў выкананьні аркестра. А поўнасьцю шлюбны марш маладыя могуць паслухаць і дома. У многіх раёнах прадугледжаны розныя катэгорыі паслуг за шлюб. Калі нехта бярэ яго ў будні дзень, дык каштуе ён на некалькі літаў таньней. 5-6 пар у год не зьяўляюцца ў прызначаны час. Аднак, як гавораць супрацоўнікі Віленскага палацу шлюбаў, у мінулым годзе вярнуць затраты захацелі толькі 4 жаніхі.

Ня кожная маладая пойдзе да алтару ў сьціплай сукенцы. А шлюбная сукня каштуе ад 1000 да 1500 літаў. У газетах, праўда, ёсьць аб'явы аб часовым выкарыстаньні шлюбных строяў. За 600 літаў можна атрымаць на адны суткі ня толькі вельмі добрую сукенку, але і вэлюм, біжутэрыю. Ёсьць і таньнейшыя - па 300 літаў. Маладому цяжэй, мужчынскія касьцюмы ў часовае карыстаньне не здаюцца. Хочаш жаніцца - зьбірай грошы. Стужка свата з вытканым прозьвішчам каштуе больш за 50 літаў. Гавораць, што найтаньней ладзяць вясельле студэнцкія пары. Яны частуюць півам і гарохам. А ў палац шлюбаў студэнты разам са сьвітай прыходзяць часта пешшу. Гэта арыгінальна і нават эфектыўна. Палац можа запрапанаваць маладым шыкарны белы "Лінкольн" - 300 літаў у гадзіну. Працаўнікі палацу гавораць, што "Лінкольн" не стаіць. Замаўляць трэба нават загадзя.

Шлюбны баль лічыцца сьціплым, калі на аднаго госьця выдаткуецца каля 50 літаў. Але нават за 200 літаў на аднаго ў рэстарацыі цудаў ня будзе. Дарэчы ў рэстарацыі "Сацірас" у Вільні шлюбны пачастунак абяцаюць за 40-80 літаў на аднаго. Напіткі, садавіна і тарты - свае. Памяшканьне каштуе асобна - 30 літаў за суткі. Дык ці ня лепш узяць у арэнду сапраўдны Вяркяйскі палац? Банкетная зала і піўбар будуць каштаваць 500 літаў за двое сутак. Маладым будзе што распавесьці дзецям.

Аднак, выдаткаваўшы нават вялікую суму на вясельле, шмат хто разводзіцца. У 1993 г. у Летуве распалася 13884 сям'і. 251 пара ня вытрымала нават года. Найбольш нецярпімыя маладыя ва ўзросьце 20-24 год. Сямейных сувязяў больш баяцца мужчыны. Аднак і трэцяя частка жанчын ужо на першым годзе не пажадала цягнуць на сваім карку мужэй.

Для тых, хто бярэ і царкоўны шлюб, выдаткі павялічваюцца. Усталяванай аплаты за яго няма. Гавораць аднак, што ў Вільні без 50 літаў лепш і не пачынаць. У правінцыі ўсё каштуе таньней. А ў Акмяне ёсьць ксёндз, які за шлюб не бярэ нічога.

У сталіцы па ініцыятыве летувіскай федэрацыі "Карытас" і цэнтра сям'і Віленскага арцыбіскупства два разы на тыдзень для тых, хто шыкуецца да шлюбу, праводзяцца лекцыі па каталіцкай сэксуальнай этыцы, пра значэньне малітвы і шлюбу для маладых, планаваньне сям'і, пра дзяцей. І ўсё бясплатна. За дзякуй.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

## РАСЕЯ

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

Паніхіда ў памяць аб загінуўшых у Цусімскай бітве расейскіх ваенных мараках адбылася 27 траўня на крэйсеры "Аўрора". Вечарам таго ж дня на "Аўроры" прайшла прэзентацыя рэпрынта рэвалюцыйнага выданьня, прысьвечанага Храму Спаса на Водах. Гэты храм быў узьведзены ў гонар загінуўшых маракоў. Сёньня крэйсер "Аўрора" зьяўляецца філіялам ваенна-марскога музея Санкт-Пецярбурга.

### МАСКВА

"Спыніць канвеер сьмерці ў засьценках!" - пад такім дэвізам 25 траўня у будынку Генеральнага штабу Узброеных сіл Расеі прайшоў пікет руху "Жаўнерскія маці Расеі". У акцыі прыняло ўдзел каля 30 чалавек. Пікетчыкі патрабавалі выплаты кампенсацыі бацькам загінуўшых і пацярпелых у час службы ў войску, і прыняцьця Дзярждумай "закона аб статусе Жаўнерскай маці".

* * *

"Страшная праўда трагічнага лёсу нашых суайчыньнікаў у Рэспубліцы Казахстан заключаецца ў тым, што яны вымушаны адстойваць сваю этнічную самабытнасьць і чалавечы гонар, за што маюць ганеньні, жорсткія рэпрэсіі і нават забойствы". Менавіта так гаворыцца ў заяве, прынятай напрыканцы траўня Дзярждумай. "У сувязі з парушэньнем асноўных правоў і свабод расейскіх суайчыньнікаў і грамадзян Расеі ў Рэспубліцы Казахстан".

Пра гэта паведаміла прэс-служба Камітэта Дзярждумы па справах СНД і сувязям з суайчыньнікамі. Заява прынята па прапанове старшыні Камітэту Канстанціна Затуліна. У сваёй заяве дэпутаты зьвяртаюць увагу грамадзкасьці на "акты гвалтоўнага самавольства ў адносінах да расейскіх суайчыньнікаў і грамадзян Расеі ў Рэспубліцы Казахстан", і, у прыватнасьці, на арышты шэрагу грамадзян Расеі, асуджэньне на два гады пазбаўленьня свабоды лідэра расейскага таварыства Паўночнага Казахстану, журналіста Барыса Супрунюка, а таксама на забойства старшыні выбарчай камісіі Ітэрмана. Каментуючы прыняцьцё Дзярждумай гэтай заявы К.Затулін адзначыў: "Такія негатыўныя падзеі сталі магчымымі ў атмасьферы паўнамоцтваў Н.Назарбаева, тэрмін якіх працягнецца да 2000 года. Практыка казахстанскіх уладных у адносінах да галоўных правоў і свабод грамадзян Казахстана і нават грамадзян Расеі, што знаходзяцца ў Казахстане, яшчэ раз сьведчаць аб тым, што безпакаранасьць і няўвага да існуючых у гэтай краіне праблемаў "могуць давесьці да цяжкіх наступстваў".

* * *

"Агульная лінія АБСЭ вядзе да інтэрнацыяналізацыі канфлікта, да прызнаньня чачэнскай рэспублікі незалежнай дзяржавай", - заявіў на прэс-канферэнцыі намесьнік старшыні Камітэта па заканадаўству і судова-прававой рэформе Віктар Вішнякоў. Спадар Вішнякоў назваў ідэю свабодных выбараў у Чачні "несвоечасовай". На яго думку, прадстаўнічыя ворганы ўлады ў Чачні неабходна фармаваць на аснове Кангрэсу апазіцыйных сіл.

Аднаўленьне разбуранай гаспадаркі Чачні, як лічыць Вішнякоў, павінна аднаўляцца за лік пералікаў у бюджэт сродкаў ад рэалізацыі нафты, бензіну на тэрыторыі рэспублікі для іх мэтавага выкарыстаньня. Прэс-канферэнцыя адбылася напрыканцы траўня ў Дзяржджуме Расеі.

* * *

Прэзентацыя кнігі Хермана Майна "Сродкі масавай інфармацыі ў ФРГ" адбылася 29 траўня ў Цэнтральным доме журналістаў. Падчас свайго выступу на прэзентацыі Херман Майн распавёў аб развіцці свабоднага друку ў Нямеччыне, а таксама аб тым, якія сродкі масавай інфармацыі там існуюць і якімі, на яго думку, яны павінны быць.

**"Э.-Х."**

## УКРАІНА

### КІЕЎ

Новы герб Кіева ўстаноўлены на будынку Кіеўскага гарсавета. На новым гербе адлюстраваны архангел Міхаіл, які, паводле паданьня, зьяўляецца заступнікам горада. Сьвята прайшло 27 траўня. Яно прысьвечана Дню Кіева.

* * *

Дачка Джахара Дудаева з пяцімесячным сынам прыехала ў Кіеў. Аб гэтым 27 траўня аб'явіў прэс-цэнтр Украінскай нацыянальнай асамблеі (УНА). Дана Дудаева выехала з Грознага у сьнежні 1994 года і хавалася ў гарах каля чатырох месяцаў. У пераезьдзе на Украіну дачцэ Дудаева дапамаглі прадстаўнікі УНА.

* * *

Створана дэпутацкая сьледчая камісія па праверцы дзеяньняў Генеральнага пракурора Украіны Уладзіслава Дацюка.

Рашэньне аб стварэньні сьледчай камісіі 29 траўня прыняло сумеснае паседжаньне камісій Вярхоўнага Савета Украіны па законнасьці і правапарадку, па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй, па прававой палітыцы і судова-прававой рэформе.

Камісію па праверцы дзеяньняў Генеральнага пракурора ўзначаліў Валеры Еўдакімаў.

### ДАНЕЦК

Устанавіць мемарыяльную дошку, прысьвечаную памяці паэта і дысідэнта Васіля Стуса вырашылі ўдзельнікі паседжаньня Вучонага Савета Данецкага Універсітэта . Паседжаньне адбылося 26 траўня. Мемарыяльную дошку вырашана ўстанавіць на корпусе, дзе знаходзіцца філалагічны факультэт універсітэта. Дадзенае рашэньне падтрымала мясцовае аддзяленьне арганізацыі "Прасвіта".

**"Э.-Х."**

## ГЕРОЙ ЦІ ЗДРАДНІК?

**У лістападзе 1981 года з Польшчы ўцёк адзін з найбольш здольных афіцэраў генеральнага штаба палкоўнік Куклінскі, які перадаў ЗША планы ўвядзеньня ў Польшчы Ваеннага становішча. Гэтак пачалася гучная справа, галоўнага героя якой адны называюць здраднікам, другія - героем, і кожны мае рацыю. Ужо пасьля ўцёкаў Рышард Куклінскі заявіў, што ён на працягу доўгага часу перадаваў амерыканцам сакрэтныя матэрыялы адносна варшаўскага пакту. У 1984 годзе палкоўніка Куклінскага вайсковы суд прысудзіў да сьмяротнага пакараньня за здраду і дэзертырства.**

Амаль адразу пасьля ўпадку камунізму ў 1989 годзе пачуліся галасы, якія дамагаліся скасаваньня гэтага прысуду, і перадусім вызваленьня Куклінскага ад ганебных абвінавачваньняў у здрадзе айчыне. Абаронцы былога палкоўніка, які, згодна з прысудам, страціў сваё званьне, спасылаліся на відавочны, на іх думку, факт, што Польская Народная Рэспубліка не была суверэннай, а яе ўзброеныя сілы падпарадкоўваліся непасрэдна камандваньню Варшаўскага пакта, іншымі словамі, савецкім камандзірам.

У гэтай сітуацыі абвінавачваньне ў здрадзе краіне ня можна успрымаць усур'ёз. Наадварот, перадаючы амерыканцам інфармацыі, якія датычыліся Варшаўскага пакту, Куклінскі аслабляў арганізацыю, якая была гарантам зьняволеньня Польшчы, і, гэткім чынам, рызыкуючы жыцьцём, выконваў патрыятычную місію.

Аднак усе гэтак званыя "салідарніцкія" урады адсоўвалі справу рэабілітацыі Рышарда Куклінскага з той простай прычыны, што вызваленьне Куклінскага ад абвінавачваньняў у здрадзе Бацькаўшчыне і прызнаньне таго, што ён кіраваўся патрыятычнымі памкненьнямі, аўтаматычна азначае, што ўсе іншыя вайскоўцы, якія захавалі лаяльнасьць у дачыненьні да камуністычных уладаў ды Варшаўскага пакту, былі калі ня здраднікамі, дык гарачымі памагатымі сістэмы, у якую Польшча была сілай уцягнутая. А на гэткі маральны канфлікт з войскам цяжка пайсьці.

Немалое значэньне мела таксама і неадназначная грамадзкая думка. Паводле многіх апытаньняў, большасьць палякаў лічыць Куклінскага не патрыётам, а менавіта здраднікам. Тут няма чаго зьдзіўляцца, бо значная частка польскага грамадзтва знаходзіцца ў падобнай сітуацыі, як і большасьць вайскоўцаў. Зусім немалая колькасьць палякаў працавала на карысьць умацаваньня Польскай Народнай Рэспублікі. Многія лічаць, што ПНР была іх сапраўднай Айчынай, ці, прынамсі, лічаць яе часткай сваёй біяграфіі.

Гэтыя людзі пражылі ў гэтай краіне ўсё сваё жыцьцё, і думка гэтых людзей выразна прагучала падчас апошніх выбараў. Гэта яны прагаласавалі за Саюз Левых Дэмакратаў ды Польскую Сялянскую партыю. Дзеля іх справа была яснай: Куклінскі - гэта здраднік, бо яны гатовыя назваць здраднікамі ўсіх, хто далучыўся да ліквідацыі ПНР.

Затое абаронцы Куклінскага прадставілі падчас судовага працэсу зусім іншы погляд. На іх думку няма ніякай працягласьці паміж дзяржаўнымі сістэмамі ПНР ды Трэцяй Рэччу Паспалітай альбо сучаснай Польскай дзяржавай. Папярэдняя краіна не была суверэннай, а дзяржаўны лад быў злачынны. Куклінскі, які дзейнічаў на карысьць яго зьнішчэньня, быў польскім патрыётам, а абвінавачваньне ў здрадзе зьяўляецца недарэчным. Большасьць суддзяў (былых афіцэраў, якія яшчэ нядаўна давалі прысуды за здраду падчас ваеннага становішча) апынуліся ў двузначнай сітуацыі, таму ў 1984 годзе было прынятае рашэньне вярнуць Рышарду Куклінскаму званьне палкоўніка, але ён ня быў вольны ад галоўнага абвінавачваньня.

Працэс быў узноўлены. Тэарэтычна палкоўнік можа быць вызвалены ад абвінавачваньняў, але можа быць і зноў асуджаны, ужо ад імя сучаснай Польскай Рэспублікі. Зразумела, што апошняе рашэньне нікога не задаволіць. А рэабілітацыя Куклінскага адначасова ўпісваецца ва ўсё больш выразную сёньня тэндэнцыю ўхіляцца ад адказу на пытаньне, чым была Польская Народная Рэспубліка? І менавіта гэта спрычынялася да таго, што рытарычнае і драматычнае пытаньне абаронцы Куклінскага Кшыштафа Пясевіча - "Скажыце мне, дзе мы жывём, у ПНР ці ў Незалежнай Польшчы?" - засталося без адказу.

**А.АЙНА.**

# MINIMALISM – ПАДСЬВЯДОМАЕ ВЯРТАНЬНЕ ДА ВЫТОКАЎ

"MINIMALISM" - так назваў сваю персанальную выставу, якая адкрылася 27 траўня ў галерэі "У МАЙСТРА", вядомы гарадзенскі мастак Сяргей Асапрылка. З



аднаго боку такі крок здаецца дзіўным, бо звычайна тэрмінамі, якія азначаюць пэўную ідэйна-эстэтычную плынь у мастацтве, называюць калектыўныя акцыі, перформенсы ды іншыя імпрэзы падобнага кшталту. З другога боку, калі фактычна адбылася дэсакралізацыя і прафанацыя традыцыйных панятка́ў, калі мы сталі сьведкамі разбурэньня колішняй каштоўнаснай іерархіі і пераможнага шэсьця постмадэрну, вяртаньне да мінімалізму - гэта індывідуальны пратэст творцы супраць новых форм татальнасьці і засільля няякаснай маскультуры. Гэтая выстава якраз візуальнае пацьверджаньне папярэдняй тэзы і лагічнае падсумаваньне творчых пошукаў мастака.

Сяргей Асапрылка, які некалі скончыў Беларускую Акадэмію Мастацтваў, і не бяз посьпеху прэзентаваў свае працы ў Польшчы, Гішпаніі, Францыі, арганічна не ўспрымае камерцыялізацыю ў сьферы культуры, калі здольныя людзі руйнуюць свой талент, апускаючыся да густаў люмпенізаванага натоўпу. Мастак акрэсьлівае сваю творчасьць як адлюстраваньне глыбінных перажываньняў, трансфармацыю ўражаньняў і эмоцый, як падсьвядомае вяртаньне да вытокаў.

- Я нарадзіўся ў мястэчку Наваельня Дзятлаўскага раёна, - гаворыць Сяргей, - таму і мінімалізм для мяне - гэта ня толькі карыстаньне мінімальнымі сродкамі мастацкага выяўленьня ці нейкая даніна модзе, а зусім натуральнае імкненьне да прастаты, вяртаньне да першавытокаў, спрадвечных форм і каштоўнасьцяў. Мажліва на мяне паўплываў наш вірлівы Нёман... А ўвогуле, мае карціны трэба ўспрымаць чыста асацыятыўна...

Яно так і адбывалася на самой справе. Удумлівыя і чульлівыя гледачы самі прыдумвалі назвы карцінам і дзяліліся сваімі адкрыцьцямі з гаспадаром імпрэзы, а ён з задавальненьнем адказваў на іх пытаньні.

На адкрыцьці выставы выступіў наш зямляк, які зараз стала пражывае ў горадзе Бостане Злучаных Штатаў Амерыкі і час ад часу наведвае радзіму, прафесар Барыс Клейн. Ён, у прыватнасьці, падкрэсьліў,



што беларускія мастакі нічым, паводле здольнасьцяў і патэнцыялу, ня горшыя за сваіх калег з захаду, а можа й нават лепшыя, бо ў неспрыяльных для творчасьці ўмовах з-пад іхніх пэндзляў выходзяць сапраўдныя творы мастацтва.

У гэтым лёгка пераканацца, гледзячы на працы Сяргей Асапрылкі. Аскетычная і ненавязьлівая колерная гама, безьліч вузкіх і шырокіх ліній, нечаканыя зігзагі і скрыжаваньні супакойваюць, выпраменьваюць санлівую прахаладу. Хацелася б толькі канчаткова не застыгнуць, застаўшыся сам-насам з карцінамі, дакладна ведаючы, што падсьвядомасьць чалавека даўнымдаўно перамагла геаметрыю Эўкліда.

**Людвік САРОКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Сяргей АСАПРЫЛКА; выступае прафесар Барыс КЛЕЙН.**

**Фатаграфаваў Яраслаў ВАНЮКЕВІЧ.**

## СПОРТ

# УЛАДЗІМІР КУРАШ ВЕРЫЦЬ У СІЛЫ «НЁМАНА»

Як мы і прадказвалі ў мінулым нумары газеты, у апошняй гульні свайго выязднога "турнэ" "Нёман" змог перарваць пройгрышную серыю, згуляўшы ў нічыю з магілёўскім "Тарпеда". Але гэтая нічыя ня надта суцешыла гарадзенскіх аматараў футбола: у пяці праведзеных у траўні матчах каманда ўзяла ўсяго тры ачкі і апынулася ў сярэдзіне турнірнай табліцы чэмпіяната. Чаму так здарылася? Падзяліцца сваімі развагамі на гэтую тэму мы папрасілі Уладзіміра Кураша, аднаго з лепшых футбалістаў "Нёмана" канца 60-х - пачатку 80-х гадоў, а зараз старэйшага выкладчыка Гарадзенскага універсітэта.

**- Уладзімір Пятровіч, сярод чытачоў "Пагоні" нямала аматараў футбола, якім неабыякавы лёс лепшай каманды вобласьці. У чым, на Вашую думку, галоўная прычына нестабільнай гульні каманды?**

- У першую чаргу - у частай зьмене трэнерскіх кадраў, што, як правіла, у кожным калектыве не праходзіць бяз сьледу. Зараз на чале каманды стаў Іван Ляцяга - адзін з лепшых, на маю думку, сьпецыялістаў футбола ў вобласьці. Шкада толькі, што аб сваіх кадрах успомнілі так позна.

**- Скажыце, калі ласка, ці па сілах гэтаму складу "Нёмана" змагацца за больш высокія месцы ў турнірнай табліцы?**

- Так, я веру ў сілы "Нёмана" і ў здольнасьці яго новага трэнера.

Што ж, будзем аптымістамі і мы. У дзень выхаду гэтага нумару газеты наша каманда згуляе на сваім полі з "Шахцёрам", які змагаецца за "выжываньне" у 1-й лізе. Але разьлічваць закідаць салігорцаў "шапкамі" ня варта: першая і апошняя пакуль перамога нашых футбалістаў над "Шахцёрам" была атрымана ў траўні 1992 года. У наступных пяці праведзеных у чэмпіянатах Беларусі гульнях былі зафіксаваны адно паражэньне і чатыры запар нічыі. Будзем спадзявацца, што сёньня "Нёман" перарве гэтую непрыемную для сябе серыю і ў нас будзе падстава для размовы з галоўным трэнерам клуба, якую мы зьмесьцім у бліжэйшых нумарах "Пагоні".

**Вітаўт РУДНІК,**
**Асацыяцыя спартыўнай прэсы Беларусі.**

# НЕ ДАПАМАГЛО...

Напярэдадні другога тура выбараў у Вярхоўны Савет жыхары інтэрната аблсельбуда па вуліцы Сухамбаева былі прыемна зьдзіўлены тым, што ў інтэрнаце распачаўся рамонт: пачалі рэгулярна зьяўляцца электрыкі, сантэхнікі, сьлесары і г.д. Аднак зьдзіўленьне хутка зьмянілася разуменьнем "цякучага моманту" - па інтэрнаце папаўзлі чуткі, што рамонт быў распачаты для таго, каб прывабіць будаўнікоў прагаласаваць у другім туры за сп.Гараева, прадстаўнікі "каманды" якога даволі часта зьяўляліся ў інтэрнаце "для кантроля за ходам рамонта". Не дапамагло: большасьць будаўнікоў не пайшлі галасаваць ні за прадстаўніка "вертыкалі" Гараева, ні за камуніста Сямёнава.

Цікава, калі наступны раз зьявяцца "кантралёры"?

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## ЯПОНСКАЕ АБСТАЛЯВАНЬНЕ МОЖА СПЫНІЦЬ СВАЮ ПРАЦУ

Пад пагрозай закрыцьця апынуўся Магілёўскі абласны дыягнастычны цэнтр. Прычыны самыя звычайныя - не хапае фінансаў. Красавіцкую зарплату сьпецыялістам цэнтру выплацілі напрыканцы траўня, узяўшы для гэтага крэдыт пад 300%.

Дарэчы, абсталяваньне для патрэб цэнтру ў свой час паставілі японцы.

## НА ПЕНЬСІЮ НЯМА СРОДКАЎ

Як стала вядома, гомельскае ўпраўленьне Фонда сацыяльнай абароны зможа забясьпечыць выплату пеньсій за травень толькі 10 чэрвеня. Прычыны затрымкі - рэгулярныя неплацяжы прадпрыемствамі сродкаў у фонд сацыяльнага страхаваньня, які выкарыстоўваецца на выплату пеньсій.

На сёньняшні дзень у вобласьці запазычанасьць прадпрыемстваў складае 41 мільярд рублёў. Мае запазычанасьць перад гомельскім Фондам сацыяльнай абароны і дзяржбюджэт, з фонду якога, згодна пастанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, не пералічана і 20 мільярдаў рублёў у якасьці кампенсацыі непрацуючым пеньсіянерам.

## АСТЭАХАНДРОЗ ЗА 500 ДОЛАРАЎ

У Полацку ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах да начальніка траўматалагічнага аддзяленьня вайсковага шпіталю. Супрацоўнікі ўпраўленьня па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю па Віцебскай вобласьці ўстанавілі, што падпалкоўнік медыцынскай службы камісаваў за хабар двух жаўнераў тэрміновай службы. Праслужыўшаму паўгады жаўнеру ён за 500 долараў вызначыў дыягназ астэахандроз, другому, за 200 долараў і лядоўню, - плоскаступнёвасьць.

Усяго за 1994-1995 год згодна рашэньню камісіі Полацкага вайсковага шпіталю было камісавана 14 ваеннаслужачых.

## СЬВЯТА-НІКОЛЬСКІ САБОР ІЗНОЎ ПРАЦУЕ

У Магілёве, пасьля некалькіх дзесяцігоддзяў забыцьця, наноў адкрыўся Сьвята-Нікольскі сабор, адзін з шасьцісот самых старых сабораў Усходняй Эўропы. Пачатак будоўлі яго датуецца другой паловай XVII стагоддзя. Пры савецкай уладзе сабор ня дзейнічаў і выкарыстоўваўся як склад.

**СІМ**

## АКЦЁРАЎ БУДУЦЬ РЫХТАВАЦЬ У ГОРАДНІ

З пачатку новага навучальнага года ў гарадзенскім вучылішчы мастацтваў на базе абласнога драмтэатра плануюць адкрыць акцёрскае аддзяленьне. Пасьля чатырох гадоў навучаньня выпускнікі гэтай навучальнай установы атрымаюць дыплом акцёра драматычнага тэатра.

Паступіць на аддзяленьне змогуць як тыя, хто скончыў 11 класаў сярэдняй школы, так і тыя, хто мае няпоўную сярэднюю адукацыю. Для гэтага перад уступнымі экзаменамі давядзецца прайсьці тры туры творчага конкурса.

Гарадзенскае вучылішча мастацтваў - першая сярэдняя навучальная ўстанова ў краіне, якая зоймецца падрыхтоўкай акцёраў. Есьць таксама намер адкрыць эстраднае аддзяленьне.

**А.ДУК.**

## БЯСПЛАТНЫ АБЕД ЗА КОШТ КАСЬЦЁЛА

У Берасьці пры каталіцкім касьцёле Узвіжэньня Сьвятога Крыжа распачата дабрачынная выдача бясплатных абедаў для бедных. Выдача дармовых абедаў праводзіцца тры разы на тыдзень. Скарыстоўваюць з дабрачыннасьці касьцёла каля ста берасьцейцаў.

## ДЗЕСЯЦЬ МІЛЬЁНАЎ АД ПРАФСАЮЗУ

Кіраўніцтва і прафсаюзны камітэт АТ "Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод" вырашылі дапамагчы сваім былым супрацоўнікам, якія выйшлі на пеньсію пасьля першага сьнежня 1994 года.

Кожнаму з іх вырашана выплаціць па дзесяць мільёнаў рублёў.

## КОНІ ЗАГІНУЛІ АД ЯДАХІМІКАТАЎ?

19 траўня самалётам сяльгасавіяцыі Летувы ў Гарадзенскім раёне была парушана дзяржаўная мяжа Беларусі. У гэты дзень летувіскі самалёт, апыляючы сваю тэрыторыю ядахімікатамі, залящеў на беларускую тэрыторыю болей як на 500 метраў, пры чым не спыніў апыленьне.

Пасьля гэтага выпадку хуткім часам у вёсцы Прывалка загінула 11 коней.

Аднак існуе яшчэ адна версія, маўляў, коні загінулі па халатнасьці гаспадароў.

Па абедзьвюх гіпотэзах кампетэнтнымі ворганамі вядзецца сьледства.

## НЕМЦЫ АХВЯРУЮЦЬ НА РЭСТАЎРАЦЫЮ ДОМА-МУЗЕЯ М.ШАГАЛА

Бюро міжнародных кантактаў Нінбурга (Нямеччына) перадала Віцебскаму музею Шагала 3000 марак. Месяцам раней гэтая ж арганізацыя перадала музею 2000 марак. І надалей грошы, што прыходзяць у бюро ад фірмаў, прыватных асобаў, будуць мэтанакіравана перадавацца на рэстаўрацыю Дома-музея Марка Шагала.

**СІМ**

## ПРАЙШОЎ ДЗЕСЯТЫ АЎКЦЫЁН

30 траўня ў Гарадзенскім тэатры лялек адбыўся дзесяты аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасьці. З гэтай нагоды ў Горадню завітаў намесьнік міністра Міністэрства дзяржуласнасьці і прыватызацыі Рэспублікі Беларусь В.М.Давыдзенка, а таксама адна з кіраўнікоў МФК на Беларусі Кэрын Лайн з ЗША.

Цяжка сказаць: ці паўплывала на гарадзенскіх бізнэсмэнаў прысутнасьць высокіх гасьцей, але з прапанаваных на аўкцыён шасьці лотаў за нейкія паўгадзіны вядучы В.Шалкевіч прадаў чатыры. Асабліва вызначыўся малады бізнэсмэн з Горадні, які з чатырох прададзеных аб'ектаў набыў ва ўласнасьць тры.

**Г.Д.**

"ПАГОНЯ"
Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры передруку спасылка абавязкова.
Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.
Індэкс 63124.
Фотанабор, афсетны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 2686
Наклад 8936 паасобнікі.
Нумар падпісаны да друку 1.06.95, у 16.00